# 1882 Якуб Колас 1962

ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

Літаратура і МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 88 (1725) | Пятніца, 2 лістапада 1962 года | Цана 4 кап.

ІДЗЁМ МЫ ВЕРНАЮ ДАРОГАЙ,
ІРДЗЯЦЦА ЗОРЫ НАШЫХ ДЗЁН,
БО НАМ ПРАСТОРУ, ВОЛІ МНОГА,
І ЎСЁ ШЫРЭЕ ДАЛЬ-РАЗЛОГА,
І ЎСЁ ДУЖЭЕ НАШ РАЗГОН.

Якуб КОЛАС.

# ЛЮБОЎ

Заўтра знамянальная дата ў гісторыі беларускай культуры — 80 год з дня нараджэння народнага паэта Якуба Коласа.

Колас...

Ён уваходзіць у нашу свядомасць яшчэ з маленства, з тых гадоў, калі «не сядзіцца ў хаце хлопчыку маломү». Уваходзіць як вельмі чулы, добры чалавек, які разумее тваю дзіцячую душу і вельмі ж хораша, проста і прыгожа расказвае аб усім, што цябе акружае. Вясна, лета, восень, зіма, рэчка, поле, луг — мы пачынаем глядзець на іх яго вачыма і думаць пра іх яго словамі. Прырода са здзіўляючай паслухмянасцю адгукаецца на гэтыя словы, раскрываючы свае таямніцы. І мы раптам адчуваем сябе ўладальнікамі нейкай чарадзейнай сілы. Пазней дазнаёмся, што гэта — паэзія.

Пазней, з цягам часу, і вобраз добрага, чулага спадарожніка нашага маленства паўстае ў нашым уяўленні інакшым. Па меры таго, як мы адкрываем новыя і новыя старонкі коласаўскіх кніг, як нам становіцца вядомым яго жыццё, да кожнай хвіліны аддадзенае тытанічнай працы ў імя свайго народа, дзіцячыя пачуцці аказваюцца толькі невялікай часцінкай таго, што трэба сказаць, каб хоць прыблізна акрэсліць вялікі свет, назва якому — Колас.

Апынуўшыся ў гэтым свеце, мы становімся ўдзельнікамі глыбокага роздуму над жыццём, над шляхамі гісторыі, сэрцам і розумам дакранаемся да мудрасці, накопленай стагоддзямі. Радасць і гора, любоў і нянавісць, замілаванне і гнеў, высокія грамадзянскія парывы і будзённы клопат— усё, што спадарожнічае ў жыццёвай дарозе чалавеку, прайшло праз душу мастака, адлілося ў яго цудоўных творах згусткамі высокай паэзіі. «Новая зямля», «Сымон-музыка», «Дрыгва», «Рыбакова хата», «На ростанях», «Суд у лесе», «Адплата», тамы апавяданняў, вершаў і песень, пачынаючы ад тых, прасякнутых гаркотай і болем, што напісаны паўстагоддзя назад, і заканчваючы гімнамі савецкай рэчаіснасці, — якая гэта глыбока праўдзівая эпапея народнага жыцця! І праўдзівая яна таму, што сярод яе рэальных герояў быў сам мастак, які выйшаў з гушчыні народа, еў з ім адзін кавалак хлеба, разам з ім пакутаваў і змагаўся, перамагаў і святкаваў.

«Найвышэйшая пахвала, якой толькі можа ўдастоіцца паэт нашага часу, самы гучны тытул, якім толькі могуць ушанаваць яго сучаснікі альбо нашчадкі, заключаецца ў чароўным эпітэце «народнага», — гаварыў В. Р. Бялінскі. Імя Якуба Коласа жыве ў нашых сэрцах у надзвычайным суладдзі з гэтым эпітэтам, сімвалізуючы сабой узор служэння песняра свайму народу, узор іх узаемнай любві і ўдзячнасці.

Творчасць вялікіх мастакоў заўсёды вырастае на скрыжаванні магутнага прыроднага таленту з імкненнем народа глыбей усвядоміць свае духоўныя сілы, выказаць у прыгожай паэтычнай форме свае запаветныя мары і пачуцці. Так у рускай літаратуры з'явіліся геніяльныя Пушкін і Горкі, ва ўкраінскай — Шаўчэнка, у латышскай — Райніс, у беларускай — Янка Купала і Якуб Колас... З прыходам такіх талентаў грамадства ўзнімаецца ў сваім духоўным развіцці на галаву вышэй і робіць крок да сваёй будучыні.

Янка Купала і Якуб Колас жылі і тварылі на вялікім гістарычным перавале. Для беларускага народа гэта была эпоха абуджэння нацыянальнай самасвядомасці, рашучай барацьбы сумесна з брацкімі народамі ўсёй краіны за вызваленне ад капіталістычнага рабства, эпоха перамогі новага жыцця. З гэтых іменна глыбінь б'юць крыніцы іх творчасці. Ды мала сказаць, што Купала і Колас праўдзіва адлюстроўвалі свой час. Вобразы нашых народных песняроў менш за ўсё асацыіруюцца з вобразамі летапісцаў, бо тое, што стваралі яны, было насычана вялікай энергіяй дзеяння. У часы прыгнёту песні Купалы і Коласа станавіліся сцягам барацьбы за свабоду, будзілі гнеў і помсту «багачам і панству», з чыёй «ласкі» Беларусь была «забытым богам краем». Чалавек працы — галоўны герой гісторыі і новага мастацтва,—прыпаўшы да бурлівай ракі купалаўскай і коласаўскай паэзіі, не толькі з яшчэ большай выразнасцю бачыў сваю гаротную долю, усе жахі паднявольнага існавання. Ён чэрпаў адтуль і іншыя пачуцці — пачуцці ўласнай годнасці і гордасці, ён усведамляў сябе Чалавекам і гатоў быў за гэта змагацца.

Я — мужык, а гонар маю,
Гнуся, але да пары.
Я маўчу, маўчу, трываю,
Але скора загукаю:
«Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!».

Вытканая на такіх ідэях і матывах песня паэта лёгка знаходзіла дарогу да сэрцаў людзей, бо яна, умоўна кажучы, толькі паэтычна «афармляла» тое, што думалі, чым жылі штодзень мільёны.

Народны погляд на навакольны свет, народнае разуменне праўды і крыўды, прыгожага і агіднага, высакароднага і нізкага, трагедыйнага і смешнага ў спалучэнні з высокай прастатой паэтычнага мыслення адразу ўзнялі творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа над узроўнем звычайных літаратурных з'яў таго часу. І гэта было заўважана вялікім Горкім, які пісаў, што таму-сяму з рускіх літаратараў не шкодзіла б набыць якасці, характэрныя для паэзіі Купалы і Коласа.

Можна больш-менш поўна расказаць біяграфію Канстанціна Міхайлавіча Міцкевіча, але немагчыма да канца вычарпаць тэму Якуба Коласа — мастака-класіка, вучонага, грамадскага, палітычнага і культурнага дзеяча, аднаго з заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры і сучаснай беларускай літаратурнай мовы, пісьменніка-наватара, які ўзбагаціў нацыянальную літаратуру новым зместам, новымі жанрамі і формамі. Немагчыма не толькі і не столькі з-за неабдымнасці зробленага, а таму, што такія з'явы ў прынцыпе невычарпальныя, бо яны няспынна развіваюцца, як сказаў вялікі рускі крытык пра Пушкіна.

Колас не толькі аўтар сваіх, напісаных уласнай рукою кніг, ён мае дачыненне і да таго, што стваралі і ствараюць наступныя пакаленні пісьменнікаў. Мы сёння многа спрачаемся пра традыцыі і наватарства. Кіруючыся, вядома, самымі добрымі намерамі, аднак у дыскусійным запале ці па неразуменню сутнасці справы мы пры гэтым іншы раз ставім пад сумненне жыццяздольнасць тых традыцый пісьменніцкага майстэрства, што пакінулі нам Купала і Колас. Маўляў, новы час патрабуе... і г. д. Калі ўжо гаварыць пра патрабаванне часу, дык ён патрабуе перш за ўсё — вучыцца ў Купалы і Коласа. Вучыцца жыць адным жыццём з народам; вучыцца шырока глядзець на свет; вучыцца любві да чалавека і самаахвярнаму служэнню справе народа; нарэшце, вучыцца наватарству, і наватарству мудраму, а не ўяўнаму. Беларуская літаратура ў лепшых сваіх узорах сёння ўзыходзіць на вышыні сучаснага мастацтва іменна дзякуючы таму, што яна шануе, захоўвае і памнажае традыцыі сваіх вялікіх заснавальнікаў, а не насуперак гэтым традыцыям.

Купала і Колас даюць нам высокі прыклад мастака новага тыпу, палымянага патрыёта і грамадзяніна, нястомнага змагара за перамогу камуністычных ідэй. Рука гэтага мастака заўсёды ляжыць на пульсе эпохі, клопат краіны — яго асабісты клопат. «Розумам і сэрцам сваім успрыняў я вялікія ідэі марксізма-ленінізма, — пісаў Якуб Колас. — Сваё жыццё і сваю дзейнасць я назаўсёды звязаў з жыццём і дзейнасцю вялікай Камуністычнай партыі, а гэтым самым і з народам, бо партыя і народ — непадзельныя разуменні. Дарога партыі — мая дарога, і з гэтай дарогі я не сыду ніколі».

Адзначаючы 80-годдзе з дня нараджэння Якуба Коласа, мы ўшаноўваем выдатнага майстра слова, вялікага сына радзімы, якую ён праславіў сваім прыгожым жыццём. А многія і многія, хто ведаў народнага паэта асабіста, хто працаваў з ім альбо сустракаўся як з настаўнікам ці як з дэпутатам Вярхоўнага Савета, ці як з земляком,—уплятаюць яшчэ ў вянок усенароднай любві і пашаны пачуцці захаплення чалавекам цудоўнай, чулай душы, простым і справядлівым, як сам народ. І гэта таксама — каштоўная спадчына.

Так, ён быў яркім увасабленнем лепшых рысаў свайго народа.



